ББК 84Бел7
Б14

Лейтмотивом, дающим стихам и поэмам Ирины Богданович композиционное единство, является вечно актуальная мысль: чтобы человечеству нравственно выжить, необходимо прежде всего сберечь свою духовность.

Поэтесса метафорически утверждает, что предки смотрят на нас глазами фресок. Этим поэтическим тропом не просто объясняется название книги, но и подчеркивается мысль о преемственности поколений.

Б $\frac{4702120202-064}{М 302(03)-89}$ 42—89

ISBN 5-340-00186-5

## НЯМІГА

> Гідронім «Няміга» хутчэй за ўсё балцкага паходжання (у сучаснай літоўскай мове, напрыклад, ёсць слова «nemiga», якое перакладаецца «бяссонніца»).
>
> *Зянон Пазняк*

Няміга, сляпое бяссонне.
І доўжыцца, доўжыцца дзень.
Адвечная цемра, бязмоўе,
А нітачка выйсця — ў людзей.

Князёўна, гарэза, малая
Блакітная стужка зямлі,
Цябе, трапяткая, жывая,
За што затачылі, звялі?

Нашто? Каб не помніў нашчадак,
Адкуль ён і род наш адкуль?
Няміга, ты Памяць, Пачатак,
Прамацерка нашых матуль.

Спачатку Нямігу, а потым
І род наш няцяжка — на звод?
Няміга, бяссонне, маркота,
Ўсяслававых коней намёт.

Прасуецца коламі наспа
На месцы магільным тваім.
Пакуль захавалася назва —
Яшчэ на табе мы стаім,

Князёўна, Прамацер, Няміга,
Нябачная новым вякам,
Нібы старадаўняя кніга,
Цяпер недаступная нам.

Які цябе вылечыць лекар?
Я чуйна імгненні лаўлю,
Як ты разрываеш калектар —
Душу напаўняеш маю.

## СТАРЫ МЛЫН

Па старым дзядзінцы ходзіць
Той, хто Менску даў найменне.
Млын малоціць, млын малоціць
Безыменнае каменне.
Веравозчыкі падвозяць,
Цягнуць зблізку і здалёку.
Снег, пакроены палоззем,
Ані гуку, ані кроку,
Ані голасу, ні смеху,
Быццам тут адны прывіды.
Чалавеку, чалавеку
Тут не месца. Пірамiды
Валуноў уздоўж Нямігі
З'есць за ноч млынова пашча.
Ўсе мінулыя інтрыгі
Ў малатарні знікнуць страшнай:
Пeратрушчаныя целы,
Перамеленыя даты,
Сколкі жыццяў скамянелых,
Як адно: крыжы і краты.
Труць бязлітасныя жорны —
І калі супынак будзе?
Умалот каменны, чорны
У суцэльным мёртвым гудзе.
Гаспадар-асілак сочыць,
Як з вянкоў плятуць вярыгі...

Залатоўкамі пясочак
Быў калісь каля Нямігі.
На старым дзядзінцы крокі
Спяць даўно пад наспай часу.
І свой лёс аддаўшы Року,
Спіць Нямігі шэры пасак.
Толькі ў новыя апраткі
Апранулі летуценні.
Белы хлеб ядуць нашчадкі,
Чорны хлеб і хлеб каменны.

## ДОМІК М. БАГДАНОВІЧА

Будынкі, перажыўшыя вайну,
Імпэт тутэйшых і чужых вандалаў,
Увагай вас так лёгка абмінуць,
А раўнадушшам... І таму вас мала.

Прад мармуровай крэпасцю душы
Што значыць дом, драўляны дом-нябога,
Дзе наш паэт самотна-хворы жыў?
Святых мясцін такіх у нас ці многа.

Няўжо яго аддаць глумленню тла?
Чыё маўчыць тут важкае сумленне?
Паэтавы прытулак са святла,
З праменняў складзены,
а не з бярвенняў.

Але парадак ёсць: закон «чаргі».
Ад культу чэрг ці блізіцца збавенне?
І час нам павялічвае даўгі
За разбурэнне душ, а не каменняў.

Пратэзам на падмурку — муляжы.
Адбітак цэглы старажытнай — спадкам.
Укленчу: лёс, хоць гэта зберажы,
Не пакарай бяспамятным нашчадкам!

## ГАЛАСЫ ФРЭСАК

Мы — фрэскі на сцяне сабора.
Раздаўшы колеры вякам,
Глядзім з дапытлівым дакорам
У твары вам, у душы вам.
Мы — фрэскі, бачныя няярка
У дымным мроіве часоў.
І нашы выцвілыя фарбы,
І шэпат вашых галасоў
Яднае зараз прахалода
Ўрачыстых старадаўніх сцен.
Вы чуеце, нібыта зводдаль
Гук нараджаецца, расце?
То абудзілася званіца.
Званоў знямелых языкі
Спрабуюць сонна варушыцца
І ліжуць медныя бакі...
Мы — фрэскі на сцяне трывалай.
За векам перажыўшы век,
Нас мала вельмі выжывала
Ў тваіх абдымках, чалавек.
Нам не патрэбна пакланенне —
Хаця б жаданне зразумець.
І вочы новых пакаленняў
Жыццё прадкажуць нам ці Смерць.

## У МАЙСТЭРНІ СКУЛЬПТАРА А. ШАТЭРНІКА

Непаслухмянай гліны камякі —
І творыцца гармонія сусвету.
У постаці ўплятаюцца вякі,
Вяртаюцца паўстанцы і паэты.

Аголена апушчаны мячы.
Адвечнае, Рагнеда, Сум і веліч.
На лавачцы пад бэзам адпачыць
Прысеў стамлёна Дунін-Марцінкевіч.

Алена Кіш здзіўлёная стаіць
Пікасавай дзяўчынкаю на шары.
Бязмоўнае каменне. Думка-ніць
З'ядноўвае адвечнае і мары.

Не госці тут — задумлівы Максім
І непахісны юны Каліноўскі.
Паганскі крыж ахоўвае Радзім.
Тут Вітаўт быў і Мікалай Гусоўскі.

З'яднала іх натхнёная рука.
І аднаго цяпер жадае сэрца:
Каб выйшлі ўсе з майстэрні Мастака
На вуліцы і плошчы аднаверцаў.

Каб сярод нас у камені жылі,
Не для агляду нейкай групы вузкай,
І мы нарэшце ўсе адчуць змаглі
Сябе адным народам — Беларускім.

## ПОЛАЦКАЙ САФІІ

Ля Полацкай Сафіі прыпынюся.
Сустрэне строгім выглядам яна.
Я Полацкай Сафіі пакланюся —
Прытулку, дзе ўладарыць даўніна.

Калісьці дабрадзействам Усяслава
Сафія свой зазнала зорны час.
У галубцы выводзіла Прадслава
Па літарцы свяшчэннапісу вязь.

І летапісец дбайна і натхнёна
Тутэйшай мовай, так, як вымаўляў,
Пра недарод, князёў паходы, войны
На аркушах, прывезеных здаля,
Паведамляў і даты занатоўваў
Як сведка слаўных дзён і дзён благіх.

О, колькі б тайнаў нам адкрыла слова,
Калі б знайшоўся летапіс такі!
Да неба вежы белыя узняты,
Нібы для ўсіх вымольвае яна
Палёгкі там, дзе дух зламалі страты,
Відушчасці, дзе праўда не відна.

Ля Полацкай Сафіі прыпынюся.
Павее прахалодай ад ракі.

Я гаварыць і дыхаць тут баюся,
Бо тут гавораць, дыхаюць вякі.
І мур стары, старанна паднаўлёны,
Аберагае дух сваіх майстроў,
І ачышчае сэрцы ад праклёнаў,
І захінае душы ад вятроў...

## ЛЮСТЭРКА-ТРЫПЦІХ

1

Пакутны сон, пакутны успамін.
Завешанае палатном люстэрка.
І шлях уніз па столках дамавін —
Шлях угару па лесвіцах паверхаў.
Знаёмы шлях па вулачках глухіх,
Барочнаю аздобай апавітых.
На ацалелых камяніцах тых
Блішчаць самотна кроплі «акавіты».
І я піла, забыўшыся імя,
Вытокі роду ўласнага забыўшы,
Пад брамаю з выяваю каня.
І поўным быў заўсёды той кілішак.

2

Маўчалі глуха могілкі.
Палі
Атручаным калоссем гаманілі.
Маўчалі тыя, хто сказаць маглі,
І пышнасловы многа гаварылі
Пра шлях прамы вялікіх перамог,
Гарбаціны зароўнівалі дбайна.
І паступова, страчваючы зрок,

Мы бачылі не сувязі, а тайны.
Губляўся сэнс усіх падзей і з'яў.
Драбніўся свет суцэльны на асколкі.
Іх перабраўшы нехта тыя ўзяў,
Каб свет без іх быў грудай сколкаў
толькі.

3

Шукаю сны, шукаю свой язык,
Што моваю гаворыць паслухмянай.
Адточваю на боль няўласны
Слых.
Куток люстэрка праціраю цьмяны,
Край палатна адвёўшы, а за ім...
Якой бліскучай бачыцца паверхня!
Ёсць шлях уніз на столках дамавін —
Шлях угару па лесвіцах паверхаў.

## КЛЮЧЫ

Зачынілі ад нас нашы скарбы,
Ты ж маўчы, мой сучаснік, маўчы!
Прызвычайся да шэрае фарбы...
Дзе ад спадчыны нашай ключы?

Дзе крывіцкія даўнія кнігі,
Палімпсестаў пергамент стары?
На падмурку царквы
забулдыгі
Прапіваюць астатні алтын.

Пад святымі мурамі сабора
Чорнай пашчаю зеўрыць метро.
І Няміга ў каменным уборы —
У прабірку сабраная кроў.

Сціхнуць вуліц каменных каньёны,
Можна будзе пачуць уначы:
Мой нашчадак гаворыць са мною —
Дзе ад спадчыны нашай ключы?

Што яму адкажу па сумленні?
Дзе ад спадчыны нашай ключы?
І чаму нашай памяці звенні
Расцягалі усцяж крумкачы?

Што яму адкажу па сумленні?
Гук на ліры які закрану?
Прадракалі народу знікненне,
Калыхалі над лёсам труну.

Паміж кветак ланцуг уплятали,
Каб не ўгледзеў ён сам свой прыгон.
І легенды аб шчасці складалі
На падмурку скрываўленых дзён.

Усё чакалі, пакуль ён зліецца,
Як рачулка з вялікай ракой...
Быццам нечае тайнае месца
Ён займаў на чужы неспакой.

Дык ці будзем у славе і ў хвале?
Мовай роднаю ці загучым?
Ля Нямігі ці справім купалле?
І, як кветку, ці знойдзем ключы?

## У ВЯНОК КАМІЛЕ МАРЦІНКЕВІЧ

### 1. СЯСТРА І БРАТ

Ваш лёс вырашалі свяцілы,
А лёс усё блытаў, ламаў.
Маленькая фея — Каміла,
А музыка льецца сама!

Вясновыя гукі пялёсткаў
Так лёгка злятаюць, плывуць.
Здаецца — о, як гэта проста:
У пальчыках гукі жывуць!

І Вільня, і Менск, і Варшава
Не раз пакланяліся вам.
Капрызная мачаха — слава
Ўсміхалася юным багам.

А дзеці ігралі пасажы,
І здзіўлена свет заміраў.
Што будзе далей, хто адкажа,—
Каміла і брат Міраслаў?..

А дзён развіналася стужка,
Жыццё свой абточвала крыж.
Маэстра вялікі Манюшка
Прарочыў вучобу, Парыж...

## 2. ВОЛЬНЫЯ СПЕВЫ

Не крыўда сэрца паліла:
Адмова — не ганьба зрэшты,
А талент — не ношка ў Камілы.
І ёсць вышэйшае нешта.

Самотнае — грае і грае,
Трывожнае — кліча і кліча.
Ўзвышае яно і карае,
А болей ахвяры лічыць.

Яно не павеў, не мода,
Там гімны замест літанняў.
Ёсць музыка, як свабода,
Ёсць музыка, як паўстанне:

«О, чэсць табе, замучана людства,
Што ты ад кайданаў бяжыш.
З насення твайго браталюбства
Ўзыходзяць магілы так густа,
І кожнаму зроблены крыж».

## 3. РАЗМОВА З ГУБЕРНАТАРАМ КЕЛЛЕРАМ

На допыце ў Келлера Каміла смела прызналася, што прымала ўдзел у спяванні гімна ў кафедральным саборы і насіла жалобу па забітых у Варшаве.

*З данясення палкоўніка Рэйхарта 23 чэрвеня 1861 года*

— Мы панну запрасілі чынна
Не для салоннае размовы:
Зусім тут іншая прычына...
Як, доктар, вы? Ужо гатовы?

Даведкі мусілі навесці.
У занядбанне набажэнства
Спявалі вы ў касцёле песні
Зусім не ў згодзе з духавенствам.

Яшчэ бянтэжыць непрыязнасць
Да светлых колераў адзення.
Пан доктар, унясіце яснасць
І пацвярдзіце падазрэнні.

— Нармальны пульс, запэўню я вас,
Але здароўе пад пагрозай.
Відаць па ўсім, адзін дыягназ:
Э-э, не зусім цвярозы розум.

## 4. ВАР'ЯЦКІ ДОМ

Не я, а вы — вар'яцкі дом, турма,
Дзе загадзя прададзена сумленне,
І белы свет, як чорная труна.
Цвікі забіць — нібы купіць збавенне.

О, колькі ненасытнасці людской
Яшчэ трымацца за злачынствы й здзекі?
Хачу — пакуль засыплеце зямлёй —
Застацца ў гэтым свеце чалавекам.

Вар'яткай абвясцілі, і хлусню
Паперай адпаведнай змацавалі!
Надыдзе суд, і вашу ўсю гайню
З зямлі, як нечыстоты, змыюць хвалі.

## 5. ХУСТАЧКА

**Турэмны ліст Камілы**
**да Карла Станкевіча**

А сэрца зноў — удар, удар,
Галінкай ясень дакрануўся,
А недаверлівы жандар
Ад слоў нязвычных страпянуўся.
Паштоўкай хустачка была.
Рука пяшчотная Камілы
Кахання ўзор на ёй спляла

З адзіным лейтматывам: «мілы».
Дарма вышукваў там жандар
Якісьці тайнапіс мудроны.
Ён не знайшоў, чаго жадаў.
«Кахаюць,— думаў,— падазрона.
Ім пра выратаванне душ
Пара задумацца прыспела».
Рука казённая, не руш
Любові, хустачкі той белай!
І ён, нябога, зразумеў
Непадуладны засеў літар.
Не перадаць іх не пасмеў,
Памёр на момант інквізітар.
Але чакаў ён, як каршун,
Што ў пошце трапіцца «уліка».
Пераліла душа ў душу
Каханне — спеў жальбы вялікай.
А сэрца зноў — удар, удар,
Галінкай ясень дакрануўся...
Дарога, расцяробы мар —
Далёкі покліч Беларусі.

### 6. ТАМ, У ПЕРМСКІМ КРАІ

А там, у Пермскім краі,
Згадаю я ізноў,
І што Манюшка раіў,
І як лілася кроў,

І сцены багадзельні,
Дзе да мяне — натоўп.
Каханы хтосьці вельмі,
Жандары — за сватоў.
На споведзі вачыма
Ксёндз праўды ўсёй маліў.
Ўсё-ткі я жанчына,
А кветкі там былі.
Загледзелася гэтак,
Сцяплела на душы...
Ўдыхні раскошу лета,
Не бойся, саграшы!
Не вытрымаўшы чынных
Паводзін, са стала
(Усё-ткі я жанчына!)
Дзве кветкі я ўзяла.
Як ведала, нябога,
Як покліч быў зямлі —
Жмачынскаму [1] пад ногі
Яны праз дзень ляглі.
Бо што яшчэ магла я
Аддаць на смерць яму,
Іскрыначка малая
З вялікага агню?

---

[1] Іван Жмачынскі — паўстанец з атрада А. Трусава, якога вялі на пакаранне раніцой 5 жніўся 1863 года. З акна сваёй камеры Каміла кінула яму кветкі.

## КУПАЛА, 1918 ГОД

Наросхрыст расчынены дзверы,
Сусвет выцінае імшу.
Слабее душа ад нявер'я,
Бязмоўнасць не выйсце. Пішу.

Які ты ў Смаленску малеча,
Дняпро, немаўлятка зусім!
А колькі ты скарг чалавечых
Стагоддзямі ў мора насіў?

Яны асядалі ў парогах —
Пясчынкі пакуты і крыўд.
У свеце пануе знямога,
І нехта смяецца наўзрыд.

Пазней наплятуць і асудзяць:
Не змог зразумець, не пранік...
Ён ведаў, народзяцца людзі,
Каб стаць чысцінёй чысціні.

Хваробны сусвет, непрытомнасць,
Дарадцаў насы, што ні крок.
Няспраўджанай мары надломнасць,
І верша пакутны радок.

Заплюшчаны вочы ў народа.
Ізноў — толькі прывід вясны.
Дый вера за ўсё ўзнагарода —
Найлепшыя спраўдзяцца сны.

## ПАМЯЦІ СЯРГЕЯ АСТРЭЙКІ

Табе было за гэты свет трывожна.
А хіжы кухар выпякаў данос.
Які твой лёс пакутлівы, Сярожа,
Рукой злавеснай абарваны лёс.

Педтэхнікум, сяброўства апантаных,
Ішло каханне лёгкаю хадой...
За што ты быў бязвінна пакараны
У дваццаць пяць адораных гадоў?

А кухар ходзіць каля чорнай печы,
Не стыне печ, з яе ўсё валіць дым.
І сілуэт знаёмы чалавечы
Зноў на крыжы, і з твару малады.

Прыйшлі яны у дзве гадзіны ночы,
Калі натхненнем поўніўся пакой,
І нечы голас, ціхі і прарочы,
Вадзіў уладна чуйнаю рукой.

Нікому — ні ліста, ні тэлеграмы,
Вёў стромкі шлях за самы небакрай...
Паганскі час быў не такі паганы.
Бадзёры марш грамчэй, музыка, грай!

А кухар ходзіць каля чорнай печы,
Не стыне печ, з яе ўсё валіць дым.
І сілуэт знаёмы чалавечы
Зноў на крыжы, і з твару малады.

Чый розум сёння пагадзіцца можа
З тым, што было? Лічыць не пачынай.
Падаць руку хачу табе, Сярожа,
Хадзі да нас, нам вершы пачытай.

Я не скажу, што сытае балота
Мы сталі ўсе, але, але, але...
На вершах мала стала пазалоты,
Замест яе часцей блішчыць алей.

Іржой табу параз'ядалі душы,
І бесклапотнасць песцілі двары.
Хто ведаў, тым хацелася не дужа
Аб тых табу уголас гаварыць.

І патаналі ў цемрышчы імёны,
За лёсам лёс — каменьчыкі ў вадзе.
Мы выраслі ў краі блаславёным,
Дзе нават ноч — зусім не ноч, а дзень.

А кухар ходзіць каля чорнай печы,
Не стыне печ, з яе ўсё валіць дым.
І сілуэт знаёмы чалавечы
Зноў на крыжы, і з твару малады...

Гарэў паўнюткі рукапісаў куфар,
І певень тройчы шчэ не пракрычаў.
На папялішчы весяліўся кухар
І палахлівых сэрцы пазначаў.

Пасля скупляў у згоднасці з пячаткай,
Тым самым іншым заляпляў раты.
І нарадзіўся, сполахам працяты,
Няўцямны род пад назваю краты.

Яго закон — не выстаўляць свой нораў,
Калі і так не вельмі ён відзён,
І свой партрэт у тых крацiных норах
Трымае кухар аж да гэтых дзён.

Шукалі ў вершах нейкі дух варожы,
І шанцавала ў пільнасці такім!
Калі цябе расстрэльвалі, Сярожа,
Як спалася, як дыхалася ім?

Як спіцца ім, хто ў праведніках сёння
Сядзяць на сходах, вуліцай ідуць?
Ім не пячэ ні душы, ні далоні
Атраманту паклёпніцкая муць.

А кухар ходзіць каля чорнай печы,
Не стыне печ, з яе ўсё валіць дым.
І сілуэт знаёмы чалавечы
Зноў на крыжы, і з твару малады.

Так, мы жывём у краі блаславёным,
Але пры ўсім пры тым, што ні кажы,
Не адпаведна выпалі імёны
На тытулы, на зоркі і крыжы.

Ідуць, ідуць бязвінныя калоны,
Бязмоўны поступ і жалобны марш.
Так, мы жывём у краі блаславёным,
Але які ён, блаславёны наш?

Лясны, азёрны, вечнасцю прыгожы,
Дзе ў ладзе мох, і шышкі, і грыбы,
І дух самотны, што яшчэ, быць можа,
Сваёй апошняй песні не згубіў.



Агаркі зор, патушаныя ранкам,
Абуджаныя аўтаручаіны,
Адплюшчваюцца сонныя фіранкі,
З кіёскаў разлятаюцца навіны.

Так нараджаўся дзень і незаўважна,
Як рэчыва, ён раствараўся ў кожным,
Але ў адных ён пазяхаў вальяжна,
Але ў другіх папыхваў ён вяльможна.

Але адных ён спапяляў натхненнем,
Другіх тымчасам скурчваючы працай.
Ён прарываўся роспачным маленнем
За свет вялікі над спусцелым пляцам.

Ён спеў, як выбух, у душы цярпліўца,
Паднагчваў на звышсправы апантаных.
І працякаў скрозь кніжныя паліцы
Такім дзівосным рэчывам нязнаным.

І сёння гэтаксама, як і ўчора:
Дзівак такі — за працу не палічыць —
Агаркі зор запаліць адвячорак,
Агаркі зор — ад сонца запальнічкай.

## СУСТРЭЧНЫ

Па ранняй, як здавён, зіме,
На вуліцы — прачыстай нават —
Твой старажытны твар мільгне,
На твар падобны Усяслава.

Ля брамы стрэціўшы мяне,
Нібыта запрасіў: заходзьце...
Абрысы фрэсак на сцяне —
Люстэркі строгія стагоддзяў.

Расплывіста-празрысты твар
Адтуль глядзіць. Хвіліна спыну
У часе тым — ён гаспадар,
А я ў сваім — ці гаспадыня?

Па снезе з трэснутага шкла
З недагавораным «даруйце»
Пад тую браму не ўвайшла,
Вякам не даўшы дакрануцца.

* * *

Адсутнасць чалавечай цеплыні
Чым замяніць,
Каб адрасталі крылы?
Каб затрымаць прышэсце дзён
панылых,

На дрэве ліст —
Апошні ліст трымціць.
Напружаная ўздымецца далонь
І адхіне з ілба рудую пасму.
Як неашчадна
Спажывалі час мы
І распалілі ўсё ж пад ім агонь.
Ціск у Зямлі падскочыў.
Да пары
Касмічны рытм спыняе шэпат:
«Мілы...»

Вясна.
Здзіўленне:
Дрэвы не астылі.
Яшчэ ёсць цеплыня зямной кары.

## ЭЛЕКТРЫЧКА

Імкліва электрычка прагула.
Асветленыя вокны. Каляровы
Ўнутры натоўп. Нібы парад святла,
Парыўнасці, і грукат глушыць словы.

Такая хуткасць: як разгледзець тут
Хаця б чыё знаёмае аблічча —
Адлюстраванне шчасця і пакут...
Але цягнік знікае маляўнічы.

Так і жыццё праносіцца паўз нас.
Няма калі нам углядацца ў твары...
Адкладваем на потым і якраз
Спазняемся на міг, на крок, на мару.

## БЕЛАЯ ПЯЧАТКА

**1**

А ты павінна, як і ўчора,—
Жыць
Высока,
Пазбягаючы істэрык,
Хоць прапануюць заўтра,
Можа быць,
Апошнія адкрыць, нарэшце, дзверы.
Каму патрэбны
Ціхая сляза
Альбо адчайны крык тваёй нязгоды?
Такі карунак лёс табе звязаў,
І ў ім няма нічога звыш прыроды.
Калі душа пякельна забаліць,
І зразумееш:
Недзе на мяжы ты,
Усё роўна ты павінна гаварыць
Не пра сябе,
І нават не між іншым.

**2**

Калі прыкрыеш гарачынь павек
Далонню, што нервова халадзее,
І нават самы родны чалавек

З усёй душы цябе не зразумее,
Калі, хоць чым, надломлены,
слабы,
Ты дэманструеш гэтую слабінку,
Але не плачаш, яшчэ не,—
тады
Бяры сваю квяцістую хусцінку.
Прымервай,
прытанцоўвай,
прыпявай,
На весялосць мяняй настрой панылы...
Жыццё —
Яно вялікі карнавал,
Дзе мы з сваімі меркамі малымі.

3

Стаць на мяжы,
Глыбінны сэнс адчуць
Зямнога дня,
Суцішыцца, сагрэцца...
Душэўны боль — як шар,
І я качу
Яго туды,
Дзе хтось хоць адгукнецца.
За клопатам адвечным
Дзень пры дні,
За тым, што нараджаюцца,

Старэюць,
Не зразумеюць гэтай глыбіні,
І дзякуй богу,
Што не зразумеюць.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

4

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Сам-насам застануся,
Як спачатку
Абкружаная чуйнаю раднёй.
Маўчанне ставіць белую пячатку,
Я п'ю наркотык —
Кубак з цішынёй.
Сама сабе імгненні нагадаю,
Калі душу не перарэзваў боль.
Была ж,
Была шчаслівая такая,
Узнесеная да нябёс табой!
Яшчэ надзей не спрамлена
спружына,
І стольki нерастрачана з душы...
І ўсё ж, і ўсё ж...
І ў блізкасці чужыя —
Хоць крышачку —
Да пэўнае мяжы.

## 5

...Усё нармальна будзе,— шэпча лёс,
І я яму падторваю суладна:
Ты так мяне галавакружна ўзнёс
І скінуў з вышыні так неашчадна.

Ацямлюся, навучаная ўсмак.
Вясёлай быць сябе ізноў прымушу.
Кулак раскрыю, выпадзе пятак
Замест пяра чароўнага жар-птушкі.

## 6

І ажывае нерухомы свет,
Ачомаўшыся ўрэшце ад наркозу.
Ізноў пульсуе неўтаймоўны розум,
Шукаючы галоўную з прыкмет
Буяння лістакрылага жыцця,
Што вылузацца здолела і з пекла.
Я сню: рака, і ўніз сплывае пена
З абрыўкамі хваробнага шмацця.

* * *

Зялёнай ніткай травень вышывае
Пяшчотныя, празрыстыя карункі.
Упала з неба пацерка жывая,
І дождж нахлынуў цёплым
пацалункам.

З-пад небасхілу коннікамі хмары
Абрынулі вясновую пагоню.
А людзі беглі па няўклюдным шары,
Над кожным шчыт—вясёлы парасонік.



Як цуд вышэйшы слова загучыць
Мелодыяй таемнай у падскронні,
І свет сплыве ў яе і ў ёй патоне,
Успалыхне блакітам далячынь.

І дзіўна мне дагэтуль і няўцям —
Адкуль бяруцца фарбы тыя, гукі,
Чые кіруюць так упраўна рукі
Стыхійным рухам пачуцця?



Вось мы ідзём, як блізкія чужыя,
Як на святло начныя матылі,
Ляцім на словы, акурат не тыя,
Дзеля якіх мы ў гэты свет прыйшлі.

Аб нечым дробным золкая размова,
Якую кожны рад бы быў спыніць.
А зор над намі! Сцішваецца слова...
Вандруе ноч на вараным кані.

І толькі ёсць адзінае жаданне:
Маўчаць і слухаць, слухаць і маўчаць,
Каб зразумець, што кожны з нас
абраннік
На тым шляху, што двойчы не пачаць.

* * *

Нанізвала шчаслівыя імгненні:
Хвіліны захапленняў і узлётаў —
На нітачку,
Названую жыццём.
Калі пазней хацела я надзець
Бурштынавыя пацеркі ўспамінаў,
Пабачыла на месцы тым няўклюдны,
З паспешлівасцю зроблены ланцуг.

## У ЗАВЕЮ

А вуліцы стракатае аблічча
Прыцішыў снег.
Кладзецца на кіёск,
На шыльды,
На гадзіннік.
Зерне лічбаў
Дзяўбе хвіліннай стрэлкі чорны нос.

Машыны дружна праціраюць вочы.
Расплывістыя плямы — ліхтары.
Насунуў горад капялюш малочны
На зрэнкі вокнаў, як дзівак стары.
Прахожым час дахаты заспяшацца.
Чапляецца завея за дамы:
Няма ёй тут свабоды разгуляцца,
Сам-насам з ёю засталіся мы.
Завея адбуяе і завяне,
Не ад яе хаваюся зусім
У пах знаёмы і цяпло кавярні,
Пасля ў крыклівы тлумны магазін.

А чорны нос дзяўбе мае хвіліны.
У неба снегу болей — ні каўша!
Зіма абрус паслала імянінны,
І снегу спавядаецца душа.

# ДЗІЦЯЧЫ ДОМ

1

— Вунь мама! Гэта мая мама! —
Дзяўчынка крыкнула з акна.
— Мая, мая,— наперабой
Дзяўчынкі, хлопчыкі крычалі.
Я прабягала ўздоўж акон
І думала, што нейкі дзіўны
Дзіцячы сад...
Так блізка я ніколі не была
Перад судом дзіцячай адзіноты.

2

Душа дзіцячая не ведае падману.
Што мне сказаць на шчыры покліч:
— Ма-ма?!.
Мне захацелася пайсці хутчэй,
У звычнае жыццё сваё забегчы.
Ды немагчыма ўзняць было вачэй,
Пабачыўшы іх дробненькія плечы,
На свет уладкаваных гараджан,
На свой уласны лёс,
Хоць не салодкі.
Я вінаватаю сябе адчула за ўсіх жанчын,
Нібыта гэта я...
Ёсць страшны суд дзіцячай адзіноты...

## ПАЯЦЫ

Рамонкі на вяночку,
Гарошак на сукенцы.
Жывуць Паяцы ў вочках,
І кожны з іх смяецца.
Дзяцінству лёгка дыхаць.
За цацкі — промні сонца.
І мелюць час паціху
Дзень з Ноччу, як жаронцы.
Жыццё на закаручкі
Не ведае нястачы.
Алеся мые ручкі,
Паяцы дружна скачуць.

Быў клоун на манежы,
Усіх смяшыў да колікаў.
Жыццё, як і належыць,—
Не крыжыкі,
не нолікі.
Нарублена, накрышана
Нямала: лёс не манна.
Была душа пакрыўджана
Каханнем занядбаным.
Па той сцяжыне першай
Магла прайсці іначай.
Але Паяцам смешна,
Але Паяцы скачуць.

Ляжыць далёка ў шафе
Сукеначка ў гарошак,
Па маме — чорны шалік.
Хвілін шалёны пошчак.
А потым прывыкала
Сама да ролі мамы:
Так мала сну, так мала,
А сон салодкі самы.
На выспах па гасцінцы,
Здаецца, ўсё растрачу...
І свет — у папялінцы,
Але Паяцы скачуць.

Не зношана — ў гарошак,
І боцікі не збіты,
І ўжо маё «не можна»
Ўспрымаецца сярдзіта.
Вяртаюся дадому
Дарослая да крыўды.
Нялёгка скінуць стому
І будняў тлум абрыдны.
І дзень такі калючы,
І што ўсё гэта значыць?
І як не надакучыць
Паяцам? — Скачуць, скачуць...



Няўжо каханне праміне
Няўлоўнаю чароўнай птушкай
І зажыве вакол мяне
Пустэча з назвай «раўнадушша»?

Няўжо пад маскамі падзей,
З усмешкай вяла-вінаватай,
Не прыйдзе светлая з надзей:
Ты па-ранейшаму крылаты,

І па-ранейшаму ляцім
З табою мы ў прадонне часу,
Шкада нам толькі тых мясцін,
Што мы не ўбачылі ні разу.

Шкада нам толькі тых людзей,
Якіх з сабою не ўзялі мы,
Каб ім таксама быць шчаслівым...

Неўтаймаваная з надзей.
Калі адчаем лёс кальне,
Чаму цябе прыемна гушкаць?

Чароўнаю няўлоўнай птушкай
Няўжо каханне праміне?..



Яшчэ калі мне толькі сніўся ты,
Я верыла, што там цябе сустрэну,
Дзе сталасць і юнацтва — на мяжы.

Яшчэ калі мне толькі сніўся ты,
Я ведала, што ты ідзеш насустрач
Да скрыжавання нашых пуцявін.

Таму такім даўно знаёмым, блізкім,
Нібы пасля нядоўгага расстання,
Ты здаўся мне.

## ПАРАЗУМЕННЕ

— Што ты тут робіш? —
Здзіўлена шчыры
голас.
— Кінь рукі псаваць.
— Будую планету.
Планету жанчыны.
— А можна яе збудаваць?
— Можна.
Каб толькі трывалае рэчыва.
— Што за яно, падкажы.
— Найперш, каханне.
Яшчэ чалавечнасць.
І дабрыня без мяжы.
— Што ж, і адна
будзеш корпацца з гэтым?
А разлікі, а чарцяжы?
— ?
— Дазволь дапамагу будаваць
планету.
— От жа прыстаў!
Дапамажы...

* * *

Крануў мяне за плячо,
Спытаў: «Не трэба нічога
Дагледзець на кухні?» — Глячок
Стаяў там напою зямнога.

Прынёс асцярожна ён.
У два керамічныя кубкі
Налеілі сонца дзён
І ветру шаптастыя гукі:

Чабор і ліповы цвет,
Трыпутнік і каліва мяты.
І грэліся рукі — дзве —
На кубках з гэтай гарбатай.

І грэліся сэрцы — два —
Каля прыпаміну лета.
Прастуду лячыў адвар
Маю і цэлага свету.

# НА МАТАЦЫКЛЕ

На матацыкле мы з табой ляцім
Уздоўж чыгункі, у абдымках ветру.
Дарога збочвае ў лясныя нетры.
За прыгажосць —
Хто, чым з нас адплаціў?

Спыніся, мой паспешлівы, пастой!
Тут нельга коламі:
Тут мох, грыбы, карэнні.
Тут можна толькі пешшу, каб нагой
Адчуць зямную моц і прыцягненне,

І зразумець пранізліва, што мы
Радня вось той алешыне, рабіне
І цішыні, якую перабілі
Мы матацыклам здзіўлена нямым.

* * *

Над позіркам тваім спляліся крылы
Так прыцягальна.
Крочу па мяжы,
Дзе сэрца прамаўляе шчыра:
«Мілы...»
А думка адпалохвае:
«Чужы...»



Як шчасліва ляцела дахаты:
У прытульна-знаёмы Сусвет,
Дзе заўсёды быў кубак гарбаты
І страката-карычневы плед.

І здавалася свету замнога
У адным невялічкім акне,
І жадалася шчасця зямнога,
Як ніколі, ў часы тыя мне.

Адкрываліся душы людскія
Непаўторнай сваёй глыбінёй.
Ўсіх не помню, дзялілася з кім я,
Помню тых, хто дзяліўся са мной.

І парадак той марыўся вечным,
Хоць рабілі дабро не за прыз.
На пасады знаёмых, сустрэчных
Перайшлі паступова сябры.

Не шукаю ні ў кім вінаватых.
Пасталенне — не з гэтых прыкмет.
Проста некалі йшла я дахаты,
Як у казачны, вечны Сусвет,
Дзе заўсёды быў кубак гарбаты,
Плед карычневы...

* * *

За цябе, як за апошнюю саломку,
На цябе, як на магічны крыж,—
Я хапалася, малілася, далоньку
Сэрца выпрастоўваючы звыш
Звычнага жаночага цярпення.
Данырнуць да дна тваіх вачэй.
Я чакала страшнага імгнення...
Дна няма. Усё лячу яшчэ.

* * *

Сабе прызнацца шчыра мушу
(Лічыла я, што ўсё іначай!):
Ўва мне ты бачыш папялушку,
Князёўны ты ўва мне не бачыш.
Хаваю стомленасць паходкі
(Хто ў гэтым болей вінаваты?).
Лічыла я, што ўсё знаходкі,
Калі былі ўсё страты, страты...

* * *

І даўні сум, і роспач сноў
Сшывае дзён жывая нітка.
Што гэта ўсё было са мной,
З табой было, было і знікла,—

Каму сказаць і перад кім
У незваротным павініцца?
Паслаць лісты, нарэшце, ўсім,
Каго забыла. Памыліцца

Ў шацунку ўжо каторы раз
Сваёй планіды супярэчнай.
Шчаслівай стаць, калі сустрэчны
Падорыць позірк, як алмаз.



Вязь ненапісаных лістоў,
Як смак нястрачаных ілюзій.
Датуль не знікне хараство,
Пакуль яго шукаюць людзі.
Але, як шчасце не датуй,
Затрымцы знойдзецца прычына.
Сустрэча прагнецца датуль,
Пакуль здаецца немагчымай.

## СУСТРЭЧА

Саткана з позіркаў і слоў
Неверагодная сустрэча.
Душа адтайвала ізноў,
Ёй толькі розум супярэчыў,
І стрымліваў яе парыў,
І дзьмуў на вогнішча сярдзіта,
Нібыта вартаўнік стары
Ля задуменнай сіньярыты.
Але яму наперакор
З душы струменіла пяшчота.
І нейкі ўладны дырыжор
Тут кіраваў усім употай.
У дзіўным сутыкненні рук,
У дакрананні выпадковым
Мелодыі нячутнай гук
Трывожыў, вабіў, зачароўваў.

* * *

Мой ціхі сум твой голас пераняў,
Калі вакол астатнія маўчалі.
А вусны мілагучнае імя,
Нібы малітву вечную, шапталі.
І дотык разумення, як апёк,
Бо мы — што рыбы, сціснутыя лёдам.
Усмешка прабачальная — папрок
Таемнай і задумлівай прыроды.

* * *

У ціхі час бурштынавай сустрэчы,
Калі душа прамовіць: не магу —
Вам здасца сілуэт знаёмы нечы
На вуліцы аддаленым рагу.
І вашы рухі будуць скіраваны
Туды, дзе толькі постаць адцвіла.
І доўга будзе вам наканавана
Пытаць: была яна? Чыя яна была?..



Адчуць тваю прысутнасць на зямлі
У кожным дрэве і парыве ветру.
Як доўга мы да гэтага ішлі,
І як яно нас абдарыла светла
Глыбінным разуменнем дабрыні.
Ўдваіх да непрыкаяных належым.
Нас ад старэння лёс абараніў,
Як ад улады рэчаў і адзежын.
Тваёй рукою зоркі запаліў
Той, хто Сусвет ахоўвае і ладзіць.
Адчуць тваю прысутнасць на зямлі.
Адчуць яе. І так імгненна страціць.

* * *

Я не хачу, каб ты мяне трывожыў
Лістом або хоць думкай аб табе.
Расстанне, як трава: не дапаможа
І дождж раскошны скошанай траве.

Па летуценню памяць расцярушу,
Спачатку ўсё перажыву яшчэ.
З твайго палону вызваліцца мушу,
А нейкі сум душу пячэ, пячэ...

## СЕМ ЭЛЕГІЙ РАССТАННЯ

### 1. ЛІСТ АД ЦЯБЕ

Ліст ад цябе. Перакуліўся свет,
Праліўшы зорны келіх мне на плечы.
Смяюся і маўчу. Так недарэчы
Зноў праз пясок прабіўся гэты след.

І кветкі параслі на тым пяску,
Як словы невымоўнае пяшчоты.
Як хораша, як дзіўна, як...
Няўжо ты
Журыўся па нязжатым каласку?

Журыўся, ўспамінаў і гаварыў
Са мной праз гарады і несустрэчы.
І нема адгукаліся нам рэчы,
Што да пары расстанне, да пары.

### 2. «ТАКІ ДАРУНАК...»

Такі дарунак! Веру і шапчу
Замовы ад нялітасці і страты.
На цэлы свет застаецца вінаватай
Пасля... Цяпер — убачыць і пачуць,

Якім ты стаў, якою стала я,
Якіх завей зазналі нашы лёсы.
Ты мой партрэт з прывіду змаляваў
Неадпаведна праведным і ўзнёслым.

Такі дарунак! Скупаваты лёс
Праз хітрыкі расшчодрыўся на літасць!
Але ўзамен з душы маёй абтрос,
Як яблыкі, спакой і самавітасць.

Усё пасля... Убачыць і пачуць
Тваю ў людскім прыстанішчы прысутнасць,
Спазнаць сваю віноўнасць і падсуднасць
За тое, што... Убачыць і пачуць.

### 3. ВІЛЬНЯ.
### НЕПРЫЗНАЧАНАЕ СПАТКАННЕ

Да касцёла святой Анны
Кожны вечар, кожны вечар
Я прыходжу на спатканне —
На дзівосную сустрэчу.

Сем гадзін. Як урачыста!
Адчуваю набліжэнне
Крокаў ціхіх, думак чыстых,
Існін вечных спасціжэння.

І высокі сэнс абетаў
З вуснаў горача сцякае...
Ты? няўжо?.. Адкуль ты ведаў,
Што прыйшла я, што чакаю?

### 4. «ЯК НЕ ХАПАЕ НАМ ЛІСТОЎ...»

Як не хапае нам лістоў,
Каб перадаць усе жаданні,
І роспач недаснёных сноў,
І прагу даўнюю спаткання!

Як не хапае нам лістоў,
Бо словы ў іх, нібы нямыя,
Прыблізныя, зусім не тыя...
Гербарый высушаных слоў.

Куды нас вынясе паток
Чакальных дзён?—Туды, дзе стане
Нялюднай вуліцы куток
Крыштальнай залаю спаткання?

Не азірнуцца ўжо назад...
А раптам ва ўрачыстай зале
Не хопіць слоў, каб дасказаць,
Што мы ў лістах не дапісалі?

### 5. НЕСАРВАНЫЯ ЛІЛЕІ

Навошта снег у лютым, у канцы?
Ты быў далёкім, знаным і забытым.
Прырода сем разоў звяршыла цыкл:
Зялёны, жоўты, белы і блакітны.

Навошта знаць, што ты аберагаў
У памяці сузор'і тых лілеяў,
Якіх рука кранууцца не магла,
Якімі ў снах мы сем гадоў хварэлі?

Навошта ўсё перарабляць наноў,
Уваскрашаць паснуўшыя прывіды?
Даўным-даўно зачынена акно —
Прытулак для вандроўніцы-планіды.

Навошта снег? Калі ён праміне?
Абураны, на небе хто там меле?
Я не хачу! І змоўкла. Падаў снег,
І прарасталі белыя лілеі.

### 6. КАХАННЯ ЛІСТ І ЗОЛАТА СУСТРЭЧЫ

Кахання ліст і золата сустрэчы.
Сарвецца ліст, як стане залатым.
Заўсёды сум агортвае па тым,
Што ты калісь паспешліва скамечыў.

Пакліч, любоў, бязмежжам вышыні,
Змані ізноў. Як некалі, паверу
Бурштынавай тваёй харашыні —
Яе людзям скупенькі хтось адмераў.

Перакрыжуй мой летуценны быт,
Благаславі на працу да знямогі,
А сэрца, як маленечкі магніт,
Ты прычаруй навечна да дарогі.

Мне нагадай аб часе прастаты,
Калі ніхто не думаў аб заганах.
Вандроўнік, не маўчун і не святы,
Мяне вадзіў па продкавых курганах.

Вандроўнік, не маўчун і не святы...
Пяшчоту рук дагэтуль помняць плечы.
Расстанню з нас ніхто не запярэчыў.
Сарвецца ліст, як стане залатым.
Кахання ліст і золата сустрэчы.

## 7. МЫ СПАДАРОЖНІКІ З ТАБОЙ...

Над злепкам каверзаў і крыўд
Глыбей шчаслівых дзён вытокі.
Прастуе ліст, як белы плыт,
Між берагамі душ далёкіх.

Мы спадарожнікі з табой —
Дзве бляклых плямачкі на шары,
Якія шчупальцам-журбой
Дысгарманічны век нашнарыў.

Над немагчымасцю сустрэч,
Над быту прывідам шкадобным
Мастом пралёг між намі Млеч-
ны Шлях
Высокі і халодны.

Скрозь гарадскі нервовы гуд —
Амаль нячутныя літанні —
Нас прыручыў бетонны груд
І прывучыў нас да расстання.

Мы спадарожнікі з табой.
Расстання час непераможны.
Адной прасякнуты журбой —
Сам па сабе ідзе з нас кожны.

# КЕРАМІКА

1

Дзень першы быў, як першы дзень Сусвету,
Бо свой Сусвет у кожнага ў душы.
Пастукваў дождж аб цёплую планету,
Лістота атрасала капяжы.

Раскіслая пясчаная дарога
Праз могільнік вяла на Дубакрай.[1]
Калі папраўдзе ўсё апісваць строга,
Было бадзянне гэтае не рай.

Але між тым нявыдуманым святам
Здаваўся лёс, калі не ціснуў быт.
І ў гэты час прытулак інтэрната
На іншай зорцы бачыўся нібы.

2

Дубакрай, Дубакрай,
Стогадовы спеўны гай,
Сцежкі коўзкая стужка
І буданік-развалюшка,

[1] Вёска ў Пскоўскай вобласці.

Ганак ёсць, а паабапал
Нарасло грыбоў-палатак.
Чэрпаць Сенніцу[1] вядром
Едуць археолагі.
Разам з ілам набяром
Чарапкоў, што дарагі.
Ямкі, рыскі, грабяні
Уляглiся строга.
А для нас цяпер яны —
Сведчанні былога.

3

У археолагаў народ —
Той старажытны, пракаветны —
«Культурай» звашся, і адметнай
З іх кожная была. Сярод
Гаршкоў, па выглядзе даўнейшых
(Былі ў арнаменце штрыхі),
Мы вылучым народ тутэйшы
І назавём — «штрыхавікі».
Было паселішча трывалым,
Спрадвек асела тут жылі.
Прасторы ўсім спрадвек хапала,
Вады хапала і зямлі.
Надзейны харч давалі ловы:

[1] Возера на мяжы Віцебскай і Пскоўскай абласцей.

Звяр'я ж было!
А лес які!
Рыбацкіх сетак адмысловых
Не абміналі шчупакі.
Хадзілі ў ягады дзяўчаты,
Ледзь толькі ранак палавеў,
І паспявалі сыпаць жарты,
І хлопцаў мець у галаве.
Кабеты гатавалі страву,
У лузе хтосьці шчаўе скуб,
Дзяцей замурзаных і жвавых
З дзесятак сноўдаўся ў пяску.
Ўбаку сядзеў Ужміс-гаршэчнік —
Сівы пагорблены стары,
Пакрыўшы камізэлькай плечы,
Над глінай цуды ён тварыў.
Сядзела з ім ля будана
Яніта-ўнучка і паволі
У гліны месіва жывое
Дамешкі сыпала яна.
Гаршкі выходзілі надзіва —
Умеў рабіць Ужміс-вяшчун.
Яніта, спрытна і маўкліва,
У іх удыхвала душу:
Амаль няўлоўным дакрананнем
Перад пастаўкай на ачаг
Яна наносіла арнамент
На скуру цёплую гаршка.
Быў жмутак палачак і костак

Нарыхтаваны пра запас,
Канцом зазубраным ці вострым
Яна пра свой пісала час.

## 4

Гляджу, як ажываюць чарапкі
І набывае новы сэнс арнамент.
Расказваюць пра старабыт глякі,
З глыбінь стагоддзяў вынятыя намі.

Зачаравана, здзіўлена сачу
За чаргаваннем рысак і насечак.
Трымаю і хачу цяпло адчуць
Тых рук, што распісаліся за вечнасць.

## 5

Каханы, як цябе сустрэць?
Як праз вякоў прабрацца дзёран,
Дзе ўжо пануе толькі смерць
І не прыняты тон бадзёры?

Як адгарнуць назад жыццё,
Нібы старонку фаліянта,
І, прасачыўшы межы дзён,
Спытаць, калі мяне чакаў ты?

Бывае так: ідзеш, ідзеш,
Галоўнай прагнучы сустрэчы,
І зменіцца на вечар дзень,
І зменіцца жыццё на вечар,

А той Сустрэчы не было.
Шмат іншых чарадой мінула.
Надзея трэснула, як шкло,
І падманула.

**6**

А ты стаяў каля палаткі...
Здарожаная, я прыйшла.
У тым ніхто не вінаваты,
Што лёс нам гэты Дзень паслаў.

Як ты баяўся затрымаць
Свой позірк на маім абліччы.
Ў блакнот пісаў старанна лічбы,
Каб галавы не паднімаць.

А дождж нібыта пацішэў.
І вечар апусціўся ясны,
І хмар заблытаныя пасмы
Змяніліся на зорны шэпт.

За вечар цэлае жыццё,
Здалося,
перажыта намі.
І сам сабой узнік касцёр,
І душы зблізіліся самі.

7

— Як на мове тваёй
Зялёны лес шапаціць?
— Жаляс мішкас.
— А як прывітаць мне вечар?
— Лабас вакарас.
— А як мне зорку назваць?
— Жвэйгжджэта.
— А імя тваё як?
— Вітаўт.
— А на мове маёй такіх,
як ты,
Завуць Каханы...

8

Жыцця аддалены адбітак —
Кавалак посуду ў руках.
Я пальцы тонкія Яніты
На тых адчула чарапках.

Знікае грань паміж нябытам
І лёсам сённяшнім маім.
Нібыта гэта я — Яніта —
Стаю між курганоў,
магіл.

І раскрываюцца магілы,
Яснеюць продкаў галасы.
Іду праз хмары небасхілу
У старажытныя лясы.

І, паўтарыўшы шлях стагоддзяў,
Сам-насам з тым, што час бярог,
Адчуць хачу ў сваім народзе
Дух жыццяўстойлівы яго.

9

Мужоў малодшая дружына
Балотнай сцежкай праз багун,
Дый пералескам, праз ажыннік
Вярталася да ачагу.

Упалявалі маладога
Дзіка і трох цецерукоў.
Ішлі і славілі Сварога,
Галлё адводзячы рукой.

Драмалі стрэлы з гнуткім лукам
За кожнай дужаю спіной.
Крок запавольвае Мядуха —
У родзе Крывы лепшы вой.

Вось і знаёмы груд нібыта.
На ім буданчыкаў рады.
Найперш убачыў ён Яніту,
А ўсё астатняе — тады.

Яніта, вочы апусціўшы,
Рабіла паскі на збанку.
Аер сушыўся і багун,
Дый ажыла лясная ціша.

Віталі шчыра сына,
брата
Жанок пяшчотных галасы.
Палацы іх — лясныя шаты
Ў крышталеных кропельках расы.

**10**

Вось паказаўся дзядзька Добры Вечар
І ўсё глыбей насоўваў брыль ад сонца,
І на яго кашулі пастулова
Ярчэй малюнак праступаў сузор'яў.

У шэры світэр плечы захінуўшы,
Я йшла насустрач дзядзьку-цудадзею.
Маё, аднак, убранне не свяцілася —
Бо, ўрэшце, што магло на ім блішчэць?
Ішла ў той бок, дзе плёскаліся хвалі,
Нагрэты, пяткі казытаў пясок.
Я не казала, што табе насустрач,
Бо гэта добра ведаў ты і сам,
Калі ішоў і мокрым аквалангам
На сцежцы крэсліў ледзь прыкметны
след...
Чаму ты так адчайна адхіснуўся,
Калі мяне пабачыў на дарозе,
Дзе быў танюткі след ад акваланга,
Нібы тваёй душы нябачны след?
Чаму ты адхіснуўся, абышоў
Мяне наўзбоч дарогі па калючках,
І рушыў, падхапіўшы акваланг,
Хутчэй туды, дзе гаманілі людзі?

А я дайшла да сумнае вады.
Яна была спакойная надзіва.
Яна маё аблічча прыняла,
Зіхотка ў глыбіні сваёй адбіла.
І я сама, жахнуўшыся ў той міг,
Адбегла ад люстранага бяздоння
І, на пясок упаўшы, адчувала,
Як цела мне паліла і пякла
Кашуля зорная, што, слепячы, свяціла.

А Дзядзька Вечар, крэкчучы, прысеў,
Мяне па доўгіх валасах пагладзіў:
«Не плач, дачушка,— густа шапатаў,—
Я ўсім сваю кашулю прымяраю
Шчаслівым — тым, хто здолеў пакахаць».

Цяпер штовечар кожны добра бачыў,
Як палымнее зорнае каханне
Безабаронна на маіх плячах.
Але ніхто ў душу не торкаў пальцам —
Бо што ж ў рэшце рэшт было тут новым?
Кашулю гэту шмат хто ўжо насіў.
Я пастулова да яе прывыкла,
І ўжо яна мяне не так паліла,
А проста саграваля, як цяпло
Ад смаляных язычніцкіх кастрышчаў.

**11**

Дзівосны танец рытуальны
Каля святога валуна.
І паляўнічым спеў пахвальны
Пад зорнай чашаю лунаў.

Мядухавых пякучасць рук
Тады Яніта адчувала,
Калі аднойчы за ўвесь круг
Адна хвіліна іх яднала.

Жаданым круг наступны быў,
Нецерпялівым — рух насустрач.
Здалося, вечнасць ён любіў.
Здалося неба думак люстрам.

Руку ён долей затрымаў,
Яніта ўсмешкай адказала.
І ўжо іх тайна нітавала,
Пяшчоты кужаль ахінаў.

## 12

Цвіў-палымнеў святаяннік —
Сонца адбітак.
Ты гаварыла, не вяне
Ён і не сохне нібыта.
Ты гаварыла, ён лечыць
Раны жывёлін і птушак.
Моцнымі робяцца плечы,
Чыстымі думкі і душы
Тых, хто нап'ецца настою
З кветак, сабраных
Перад світаннем.
Помніш прасветлае ранне?..
Хутка мінала
Ноч на Ярылава свята —
Спеў урачысты прыроды.
Песень было так багата,

Столькі сышлося народу!
Неслі чароўныя кветкі,
Пахлі зямля і паднеб'е
Тайнасцю пракаветнай:
Кветкамі, дзецьмі і хлебам.

13

«Глядзі, як ззяюць вочы продкаў»,—
Яніта скажа ў задуменні...
А мы завём іх проста зоркі,
Забыўшыся на роднасць душ.
Яго ўхіліўшыся абдымкаў,
Яніта лёгенька адбегла,
І недасяжныя, як зоркі,
На скронях кольцы зацвілі.
Яна знікала, як начніца,
А ён стаяў, нібы ў Сусвеце
Нічога больш не існавала,
А толькі Млечны Шлях курыўся
І шэпат праглынаў: «Я-ні...»

14

Мастацтва, дзе твае вытокі?
Хто пачынальнік твой святы:
Тварэц, Прырода, светлавокі
Мой прашчур з царства нематы?

Ён мяў кавалак рудаваты,
Ашчадна форму надаваў.
Вякі, глыбока вашы спраты,
Якія час не шкадаваў.
Цяпер даўмейся, разбярыся,
Па чарапку ўяві гаршчок.
Яны ж былі — узлёты, высі
Там, дзе ўкарэніўся быльнёг.
Былі і мастакі і воі,
Каханай жонкі светлы плач.
І вашы вас вялі героі
На чыйсьці хіжы меч і тарч.

А застануцца — чарапкі,
Стралы іржавы наканечнік...
Выходзяць новыя глякі
З-пад рук уважных чалавечых.

**15**

У бясконцасці чакання
Заблукае пацалунак.
Ён праніжа нашы вусны
Пералівамі цяпла.
Прарастуць травою рукі,
Каб зямлю абняць шчасліва,
І аб сэрца стукне сэрца —
Іскру высякуць яны.

І ад іскры той гарачай
Сонца соннае запаліць
Свой ачаг, каб абагрэцца
Ўсёй натруджанай зямлі.
Ад чаго ўзыходзіць сонца?
Ад таго, што ёсць каханне,
І яго начныя іскры
Сонцу стынуць не даюць.

16

Пачуліся благія весці:
Са стэпу рухаўся народ,
Шукаў пад сонцам лепшых месцаў
І ў дальні выбраўся паход.
У невядомасці абрыдна.
І Крыва хуценька надумаў
Крывейку-сына да Гарыдня
Паслаць,
Каб разам пашукаць ратунак.

З Крывейкам вызваўся Мядуха —
Два сябрукі, два зухі.
Але развага з-пад павек
Струменіла і брала верх.

## 17

— Счакаеш мяне ты?
— І кветка
На ранку чакае прамень.
— Каханая!
— Высахне кветка,
І птушкі крыло праміне.
— Чаму ты знікаеш, куды ты?
Ну, долю маю прадкажы!
І сумныя вочы Яніты
Зірнулі нібыта з імжы.
І мовай святой калыханак
Сказала: «Не ведай нуды,
Прыгожы, як сонечны ранак,
І дужы, як тур малады.
Там нехта ўжо зёлкі збірае,
Цішком падкладае ў будан,
Дзе спіш ты. Кідае каралі
Ў ваду — ці іх возьме вада?
А я, што там я?.. Мне не можна
Кахаць і каханаю быць.
Павінен жа нехта з ляпёшак
Збанкі цудадзейна ляпіць.
Ужміс занядужаў.
Ахвяры
Пярун, мусіць, хоча, казаў...»
Вавёркай прабегла па твары
Усмешка ці, можа, сляза.

## 18

Гарыдзень на калу канаў
Чацвёрты дзень.
Ярыла бачыў,
Што кроў гарыць ярчэй за промні.
А промні тыя саграваλі
Усіх аднолькава:
І ворагаў заклятых,
І іх ахвяр на селішчы радзінным.
І сумны бог зямной красы
Ярыла
У роспачы закрыў свой ясны твар
Ашмёцінай пачварнай хмары.
І цемра ўсё зямное праглынула.
І зразумелі людзі на зямлі,
Што нешта непраўнае і злое
Утворана на ёй.

Вярталіся таемнай сцежкай
Хлапцы ад селішча Гарыдня.
Сканаў на іх руках стары,
З ганебнага распяцця зняты.
Жанкі, дзяўчаты у палон
Пайшлі ў прышэльцавы абозы,
А хлопчыкі чужынцам будуць
Зямлю і славу здабываць.

## 19

Пясок з-пад капыт,
з-пад капыт,
з-пад капыт,
Азарт у раскосых вачах.
Сякера над лёсам, нібы сталактыт,
Над скурай зямнога пляча.
Разявіцца прорва, ўпадзе сталактыт,
У шнарах канае эпоха...
Пясок з-пад капыт,
з-пад капыт,
з-пад капыт,
О колькі,
о колькі іх многа!
Ўзбунтуе зямля,
і сашчэпяць лясы
І кроны свае, і карэнні.
Адкуль я вас чую,
адкуль галасы?
Адчынены дзе сутарэнні?
Там бітваў мінулых героі ідуць,
Ахвяры ідуць і забойцы,
Падступную здань за сабою вядуць
На кручанай слізкай вяроўцы.
Адводзяць яе ўсё далей і далей:
Туды, дзе ні суддзяў, ні сведак,
Але па дарозе згубілі яе,
Ізноў яна блудзіць над светам.

Пясок з-пад капыт,
з-пад капыт,
з-пад капыт,
Азарт у раскосых вачах...
Пячорнае неба,
Вісіць сталактыт
Над скурай зямнога пляча.

## 20

Ідуць панурыя хлапцы.
Галовы схілены. Маўчанне.
Ўжо хутка родныя капцы,
І сэрца сціснута адчаем.
Але ў вачах — не боль, не страх,
А гнеў прыглушаны і помста.
І дзідам горача ў руках,
І наканечнікззяе востра.

— Крывейка, стой! Чаму ў душы трывога?
Нібыта стогн? Нібыта гул?
І пах кастрышча смалянога
Тут не заглушыць і багун.
Бяжым хутчэй!..
І беглі да знямогі.
Мядуха чуе.
Чулі б толькі богі!

## 21

О, гэткая высокая ахвяра!
Калі б мы ўсе ахвяраваць маглі!
Быў час, калі
Адно жыццё згарала,
Каб іншыя квітнелі на зямлі.

## 22

...Ужміс яе не прымушаў.
Дый набліжаўся час ахвяры...
Яніты ясная душа
Свяцілася на ясным твары.

Сама, нязмушана, без слёз
На той ахвярнік узыходзіць.
«Ты адвядзі навалу, лёс,
Будзь літасцівым.
Гора годзе.
Схавай братоў і мацярок,
Дзяцей у гушчары ялінным,
Дзе толькі птушка і звярок
На памяць ведаюць сцяжыны.
Ты працягні крывіцкі род,
Чужынцаў прыкрых прагані ты...»

Маліўся, плачучы, народ
Ля ног абпаленых Яніты.

## 23

Гушчар Мядуха церабіў
Да той жалобнае паляны.
Не бачыў кветкі і грыбы,
Ажыннік прымінаў каляны.
Быў бог супернікам яго.
О, каб раней!
Ён перамог бы
Усіх ненажэрных тых багоў
З вялікай гэтаю жалобай.

Сядзеў да ночы ля кастра,
Не чуў, як буданы пусцелі,
І як нясмелая зара
Прабегла па пакутным целе...

Згарала лісце арабін.
Злічыўшы шмат дажджоў, пазёмак,
Сам-насам з цэлым светам быў,
Чуў голас над сабой знаёмы.

## 24

Жыццё не канчаецца, мілы,
Знікненнем тваім і маім.
Прачнёмся ў курганных магілах
У час залатых імянін,

Калі шчаслівейшы нашчадак
У кветкі старыя камлі
Агорне
І зробіць парадак
На нашай пакутнай зямлі.

## 25

Я да цябе ішоў тысячагоддзе,
Але сустрэўшы, мабыць, не пазнаў.
Жыццё сплятае сетку — асяроддзе —
І свой дае распазнавальны знак.

Так, кожнаму яго даецца клетка,
І сувязі трывалыя парушыць
Калі каму пашчасціла, то гэта
Вяло да несуладдзя душы.

Жывём нібыта на газонах кветкі —
Падстрыжаныя, роўныя падліку.
Вось выскачы з адведзенае клеткі —
І ўтворыцца хаос вялікі.

## 26

Неба, ты стала глыбейшым.
Ты наміткай ззяеш блакітнай
На смуглым абліччы планеты.

У дрэва я бачу сасуды.
Зямная жыццёвая вадкасць
Па іх працячэ ў маё цела.
Кашулі ўжо зорнай нябачна:
Яна перайшла ў мае вочы,
У скуру на кончыках пальцаў,
У пругкія клапаны сэрца.
Убачыла свет, як праменні,
Што ніжуць, упартыя, ніжуць
Істоту, і фарбы, і гукі
У пацеркі цудаў — Жыццё.

# ПАЛАЧАНКА

## ПРАЛОГ

Імёны, дзеі, даты захаваў
Падскарбій Час у глыбіні басэтлі.
Дый струны хтось з басэтлі пазрываў,
Перарабіўшы дбайна іх на петлі...
Міражны рух, мой лёсе, прыпыні,
Здабудзь у Часу памяці акравак,
Зачэрпні на прадоннай глыбіні
Імя ад горкай долі — Гарыслава,
Яго пад небам родным памяні...
Цагляны холад працінае цела.
Рагнедзін кут. Падмуркі — карані,
І доля, што ў выгнанні спапялела.
Яшчэ ўзыходзяць на ўтравелы груд.
Чые вы маці? Горкае маўчанне.
Яшчэ ідуць! Жанчыны ў чорным тут.
Вы хто? Вы — хто? Аб вас маўчыць
паданне.
Мы — маці. Мы яе спытаць прыйшлі:
За што сыны бязвінныя палеглі?..
З-пад попелу і з-пад адбіткаў цэглы
Падання подых скроні абпаліў.

## РАГВАЛОД

Таямніцамі роду
Заляглі камяні.
Не заснуць Рагвалоду,
Ён да брамы прынік.

Чарадзейнае зелле
Раскідалі ў куты.
Бліскавіцай — вяселле,
Ды не тыя сваты.

Незалежны і моцны,
Як з вараг карабель,
Скрыжаваў з наўгародцам
Меч на згубу сабе,

І сабе, і зямлі той,
Дабраслыннай здавён,
Па калені залітай
Не вадою — крывёй.

Бо дачкі не няволіў,
Разам з ёй пагарджаў
Сынам ключніцы Вольгі,
Што рабыніч спярша,

Хоць і княскага роду,
Хоць ёсць розум і гарт.

Во й сваты к Рагвалоду:
Чым Дабрыня не сват?

Не чакалі адмовы
З Наўгароду сваты.
Ой, усцелюць галовы
Берагі Палаты.

За адмову заплоцяць
Рагвалод і сыны...
Маё сэрца калоціць
Крык нямой даўніны.

### «НЕ ЖАДАЮ РАЗУЦІ...»

«Не жадаю разуці сына рабыні...»
Словы падсудныя, суддзя ж—Дабрыня.

Але хто забароніць
Адказаць, як адрэзаць?
Б'ецца жылка на скроні
У князёўны-гарэзы.

Жаніху не па чэсці
І адказ адпаведны...
Зоркай свеціць нявесце
Шлях у заўтра нязведны.

Даўняй волі дзяўчына,—
Княства вольнага кветка,
Ля падмурка дзядзіна
Вышыванай сурвэткай.

Карагодныя святы,
Варажба над вадою...
Край крывіцкі багаты —
Князь бо тут з галавою.

Што ж душу забірае
У палон спаконвечны?
Хтосьці роспачна грае
На басэтлі за рэчкай.

У дрымотным прадонні
Не сасняцца князёўне
Асядланыя коні —
Час крывавай гасцёўні.

## ПЕРШАЕ АДСТУПЛЕННЕ АД ТЭМЫ

Выцінаюць зямлю капытамі шалёныя коні,
Непакору Рагнеду прымусіць ісці пад вянец
Князь вялікі Ўладзімір, ён стане вялікім
сягоння,
Для аднога — ўзыходжанне славы, а іншым
канец.

І на дзідах халодных заскачуць агеньчыкі
змовы,
І такі ж адпаведна крывавы адбудзецца баль.
І ляцелі,
ляцелі,
ляцелі,
ляцелі галовы,
Каб вышэйшым быў трон, дзе трывала ўсядаўся
вандал.

Расквітнее крывіцкая шыр на вачах Усяслава.
Ад адмытай крыві з берагоў пасвятлее
ў Нямізе вада.
І на розуме княжым наздзіў акрыяе дзяржава,
Што пасля па шматку, па кавалку нашчадкам
раздаў.

Ля падмурка Сафійскага вырасце вучань
талковы,
Друкаванае слова над краем ўзнясе,
як штандар,
Але з новым ярмом тут аднекуль аб'явіцца
новы —
У даспехах і з мечам абнашчаным —
новы ўладар.

Зноў напоіць палеткі крывёй, і слязой,
і самотай.
Нетутэйшы і нудны гісторык пачне гаварыць,

Што зямля крывічоў — скрозь балота, балота,
балота,
І што самі яны, як жывёла, але не зубры.

Памяняюцца вера і вежы спічастых касцёлаў.
Застануцца абрубкі ад веж — аскабалкі вякоў.
На падмурку, дзе дух узвышалі калісьці
анёлы,
Будзе хмель узвышаць самазначнасць
маіх землякоў.

Заплятуць у радкі выкрывальную стужку
газеты,
І катлы закіпяць, канібальскі рыхтуючы баль,
З вершаваных радкоў,
з пастаментаў на плошчах,
з партрэтаў,
З недасяжных вышынь пазіраць будзе новы
вандал.

Пералётным пяском векавое заўецца балота,
Перамерацца душы ізноў на каторы аршын.
І калі на зямлі будуць новых караць
гугенотаў —
Гэта сябра мой будзе, магчыма, канаць
на крыжы.

Выцінаюць зямлю капытамі шалёныя коні,
Вытрасаюць зару з серабрыстых,
разветраных грыў.

У дзіцёнка спакойна сядзіць матылёк
на далоні,
Адыходзяць у пушчу па лісці апалым зубры.

## НЕ ЗА СЫНА РАБЫНІ...

Хто там скача па полі?
То дружына Дабрыні.
На каго, як ніколі,
Сваю помсту абрыне?

Зачыняе вароты
Слаўны Полацак-горад.
Ой, каго ты, каго ты
Падпільноўваеш, гора?

«Не жадаю разуці...»
О, як горда гучала!
Вы, нашчадкі, даруйце:
Ці ж заплочана мала?

За Рагнедзіны словы
І за гордасць Рагнеды
Ўсе мужчыны галовы
Паскладалі. Не бедна

Кроў лілася ў Падзвінні
Хлапчукоў, шчэ не вояў.

Хто ў крыві гэтай вінен?
Хто тых помніць герояў?

Хто быў правым у бойцы —
Іх імёны сатлелі.
Сіла Полацку — хлопцы,
Як адзін, там палеглі.

Бо князёўна жадала
Не за сына рабыні...
Ці ж заплочана мала
За той гонар Дабрыні?

«Не жадаю разуці...» —
І вякі не забылі.
І гучыць, як «даруйце»,
Гэтых слоў надмагілле.

## ПАСАГ

Вось і ўсё, што засталося,
Ад князёўны гордых слоў:
Вецер пах крыві разносіць,
Выспявае сеча зноў.

Не дабром, дык паняволі
За Ўладзіміра пайшла,

І чарнейшы за нядолю
Быў пасаг — груган у полі,
Растаптаная зямля.

Лёс наложніцы да скону
Гатаваны, не ўцячы,
І чароды новых жонак,
Помсты позірк уначы.

### ВЯЛІКІ КНЯЗЬ...

Вялікі князь!
Пажаднік, як ніхто!
Дзе ўжо канец аблуднае распусты?
Дрыжыць Пярун, і сварыцца Сварог,
І на людскім ахвярніку не пуста.

Куды ідзеш, з'яднаная зямля
Рукою (кроў на ёй) адзінаўладнай?
Рагнеда ўжо калыша немаўля,
Паганскія багі чакаюць здрады.

Заезджы бог спяшае да Дняпра
І крыж нясе, як сімвал новай веры,
З сястрою візантыйскага цара
І з кнігай на пергаментнай паперы.

Папы, кадзілы, мошчы, фіміям,
Заветаў сэнс — усё ўдае нянаскім.
І вырасце каменная царква
На капішчы разбураным паганскім.

Па спінах звонка пройдзецца бізун,
Як першы знак, што новы бог прыжыўся.
А ідалаў на жэглішча звязуць,
Каб дзедзіч ім ніколі не бажыўся.

**НОЧ РАГНЕДЫ**

Ноч для яе.
Гэткі дарунак!
Калючы,
Як здрада,
Яго пацалунак.
Каб жа любіць так,
Як ненавідзець!
Вось жа — прыйшоў!
Маліцца планідзе?
Спіць,
Разваліўся, шаты камечыць,
Пабаляваўшы
Над Лыбеддзю-рэчкай.
Спіць і гайня,
Упітая дружна.
Ноч гэта мне,

Як падачка, ялмужна.
Не, ты рабынічам быў
І прыехаў:
Княжыя строі,
Звярыныя ўцехі.
Дык жа звярыную смерць табе ў пару!
Думаў, Рагнеду зламіў ты?
Пажарам
Землі яе пакарыў
І знісгожыў?
Суд настае.
Месца лобнае — ложак.
Нож паляўнічы
Пры поясе мужнім.
Вось табе плата
За ночку-ялмужну!
Думаў, забылася я,
Паланянка,
Што палачанка я?
Палачанка!..
Сэрца, здаецца,
Вось тут спачывае,
Калі ён мае яго,
Калі мае,
Як сапраўды, там не камень,
А сэрца...
Штосьці маё так татахкае,
Б'ецца?

Можа, шкадую
Якімсьці куточкам?..
Што гэта? —
Бацькавы, братавы вочы!
Што гэта? —
Гукі трывожныя біла,
Каб не забыла,
Каб не забыла!
Не!
Адкупляйся сваёй жа крывёю!..
Княжыя вочы сачылі за ёю.
Нож перахоплены.
Болю не чуе.
Неба!
Чаму яму вечна шанцуе?
Месцы мяняюць падсудны і суддзі.
Лёс палачанкі гора не збудзе.
Села, чакае прысуду княгіня.
— Сын будзе сведкам,
Меч на, мой сыне!

## СТРУНЫ БАСЭТЛІ

### Другое адступленне ад тэмы

Струны басэтлі сэрцам пакратай...
Зернейкі, зернейкі сеяў араты,
Каб умалот атрымаць не крывёю.
Толькі ж гісторыя пішацца ёю.

І адгукнецца з прадоннае студні:
Гэты — з віною, гэты — пакутнік.
Праведнік той, хто і грэшнік вялікі,
Ўглыб зазірні, бачыш — свецяцца лікі.
Дзеля ідэі — забойствы, пажары.
Моц уладарыць, сіла ўладарыць.
Што ім знявечаны лёс ці выгнанне
Перад вялікай сяўбой — АБ'ЯДНАННЕМ,
Каб пры жыцці называлі Вялікім?..
Ўглыб зазірні, бачыш — чорныя лікі,
Чорныя рукі і чорныя петлі,
Гукам жалобным спявае басэтля.
Сочыць, пільнуе ахвочая зграя,
Каб называлі жыццё сваё раем...
Выйдуць у людзі Рагнедзіны ўнукі —
Толькі ці ўспомняць басэтлі той гукі?
Ці хоць пачуюць: за рэчкай, за гаем —
Сумна, самотна там хтосьці спявае?..

## ВЯРТАННЕ

Вазок вяртаецца паволі
Да згвалчаных бацькоўскіх меж.
Вось пакаранне за мяцеж:
Нявольніцаю быць на волі,
У зрэб'і чорным дагібець
Манашкаю ў заслаўскай келлі
І спакушаць жаданні зеллем,

Што абяцае хутка смерць.
Адно усцешна — Ізяславу
Ўладзімір Полацк аддаваў.
Адноўленай гаркавай славай
Няславу ў спраты ён хаваў.
Тут княжы род пачнецца дужы,
Дый крыўд Рагнеды не міне.
Мячам крывіцкім харалужным
Пад стольным горадам звінець...
Рыпела лёсу калымажка
Сярод адроджаных сяліб.
Прывезла гнанніца, манашка,
На водкуп Полацкай зямлі
Жаночай долі занядбанне
(Пяшчота не ўтрымала б нож!)
І рэўнасць да княгіні Ганны,
І адмаўленне ад вяльмож,
Што чынна на пасаду мужа
Уладзімір ёй абраць казаў...
Звінеў, як помста, харалужны...
Рагнеды горкая сляза
Капліцай вырасла ў Заслаўі.
А Полацк гадаваў сыноў.
Уваскрасаў на горкаслаўі,
Каб славай празвінець ізноў:
Недаўгавечнай і яскравай,
Угрунтаванай у вякі...
Была княгіняй Гарыславай,
І лёс быў, як імя, такі.

## КЕЛЛЯ

Усё было, нічога не збылося.
Як дар, жыццё пакінулі пры ёй.
Упаў валос аднітаваны россып,
Палёгкай агаліўшы вастрыё.

Была князёўна — слаўная Рагнеда,
Княгіняй Гарыславай — адбыла.
Дый лёс усё сваё яшчэ не ўведаў,
Сваёй бядой усёй не адпалаў.

Трымцела свечка залацістым струмкам
На падваконні ўбогага жытла.
На столь немудрагелістым карункам
Яе другая існаснасць лягла.

Нічога, што назвалася б ратункам,
Нікога, хто б паклікаў, зразумеў.
Трымцела свечка залацістым струмкам.
Перацякаў самотны воск у спеў.

## ЭПІЛОГ

Ізноў басэтля сумная заве
Туды, дзе чорным вокам — таямніца.
Дзьме над заслаўскім валам суравей,
Не зачапіўшы постаці Чарніцы.

Яна вакол дзядзінца абышла.
Твар — да мяне, нібыта прамаўляе:
«Я — памылялася, пакутвала, жыла!
А кожны час па-свойму спавядае.
Вам лёгка асуджаць ці шкадаваць,
Таксама, як і ўзносіць да нябёсаў.
Даўным-даўно там вырасла трава —
На скрыжаваннях неўтаймоўных лёсаў.
Даўным-даўно звяршыўся той прысуд.
Я ўсё спаўна зямлі сваёй сплаціла.
І зараз не таму стаю я тут,
Каб вы мяне па-новаму судзілі.
Да вашых дзён даносіцца праклён
Тых мацярок, што вояў гадавалі,
А ўзнагародай мелі толькі стогн,
Калі пасля, забітых, іх хавалі.
Я на сабе адчула гэты боль.
Але і я не грыўнямі плаціла.
Няма спакою, джаліць і куколь!
(Раней карону з джаламі насіла.)
Застаўся сын, каб не пайшла на звод
Зямля, з якой я разам гаравала...
Ну, што яшчэ сказаць на адыход?
У нашчадках я таксама ўваскрасала,
Калі праславіў Полацк Усяслаў
І адраклася ад спакус пярынных
Дзяўчом Прадслава, шчодрая вясна
Ужо імя выдыхвала Скарыны...
Так узыходзім мы за годам год.

І так сыходзім: з праўдай ці з віною.
Цяпер судзі... За чалавечы род
Нам кожнаму расплачвацца сабою».
Яна пайшла. Цень прывідам растаў,
Мурог схаваў сляды яе за валам.
Маё трывожна-роспачнае ста-
Годдзе той басэтлі ўсё шукала...

Знайшоў яе нашчадак.
Але крыж
Стаяў над ёю.
Струны ж — абарваны.
І гук, што сумам
Ускалыхваў выш,
Быў гук не струнны —
Гук той быў кайданны.

## ПАСЛЯ ЭПІЛОГУ

### Трэцяе адступленне ад тэмы

Кайданны гук вярэдзіў неспакой.
Мана імшой здавалася у храме.
І свет, адной хрысціўшыся рукой,
Другой гандляры́ў у душы, бы ў краме.

Дзівосны свет — сусвет: і з мітульгі,
І з раўнавагі сплецены карунак,

І з перлаў, і з гразі. Сувой тугі —
Такі яго адвечны падарунак.

Сувой тугі і танец блазнюкоў
Вакол яго раскручанай вантробы.
Шукаю струны ў мове дзецюкоў.
Шукаю лес — знаходжу расцяробы.

Шукаю крэўнасць. Адыходны тур...
Бязладны гук басэтля выцінае.
Як дзіўны рыцар, нечапаны мур
З-пад хмарачосаў сумна пазірае.

Не сплочаны Рагнедзіны даўгі,
Адным — баліць, а іншым — усё роўна,
І мова, як апальная князёўна,—
У лахманах. І шлях — сувой тугі.

# ЗМЕСТ

## СТАРЫ ГОРАД



## ПОСТАЦІ



## ФРАГМЕНТЫ

## АЛЬБОМ



## ПАЭМЫ

**Багдановіч І.**

Б 14 Фрэскі: Вершы і паэмы.— Мн.: Маст. літ., 1989.— 118 с.

ISBN 5-340-00186-5.

Богданович И. Фрески: Стихи и поэмы.

Лейтматывам, які кампазіцыйна аб'ядноўвае вершы і паэмы Ірыны Багдановіч, з'яўляецца ва ўсе часы актуальная думка: каб чалавецтву маральна выжыць, неабходна перш за ўсё захаваць сваю духоўнасць.

Паэтэса сцвярджае, што продкі глядзяць на нас вачыма фрэсак. Гэтай метафарай не проста тлумачыцца назва кнігі, але і падкрэсліваецца тэма пераемнасці пакаленняў.

Б 4702120202—064 / М302(03)—89 42—89 **ББК 84Бел7**

*Литературно-художественное издание*

**Богданович Ирина Эрнстовна**

ФРЕСКИ

*Стихи и поэмы*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Багдановіч Ірына Эрнстаўна**

ФРЭСКІ

*Вершы і паэмы*

Рэдактар *Л. В. Дранько-Майсюк*
Мастак *У. А. Сцепаненка*
Мастацкі рэдактар *А. М. Малышава*
Тэхнічны рэдактар *Л. М. Шлапо*
Карэктар *Л. А. Дзядзюля*

ІБ 3029

Здадзена ў набор 01.11.88. Падп. да друку 16.01.89. АТ 06670. Фармат $60\times90^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 3,75. Ум. фарб.-адб. 3,88. Ул.-выд. арк. 3,18. Тыраж 4000 экз. Зак. 1948. Цана 35 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.